Магістрат



«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ №3(81), травень, 2013г.

# НОВАЯ ІНІЦЫЯТЫВА - НАРОДНЫ РЭФЕРЭНДУМ

**Лідэры Партыі БНФ, руху «За Свабоду» і кампаніі «Гавары праўду» абвясьцілі пра стратэгічнае партнэрства ў межах супольнай працы па правядзеньні Народнага hэфэрэндуму, які закране хвалюючыя большасьць насельніцтва пытаньні.**





Старшыня Партыі БНФ **Аляксей Янукевіч** пракамэнтаваў партыйнай прэс-службе фармат супрацы ў межах гэтай ініцыятывы, а таксама адзначыў тое, што партнэрства не азначае аб'яднаньня, а "ёсьць інструмэнтам дзеля прасоўваньня і абароны нацыянальных інтарэсаў і праграмных каштоўнасьцяў Партыі БНФ".

20 мая ў Менску адбылася прэс-канферэнцыя, удзел у якой узялі старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч, старшыня Руху "За Свабоду" **Аляксандр Мілінкевіч** і ягоны намесьнік **Юрась Губарэвіч**, лідэр кампаніі "Гавары праўду" **Ўладзімір Някляеў** і ягны намесьнік **Андрэй Дзьмітрыеў**.

Тры арганізацыі заявілі пра пачатак стратэгічнага партнэрства дзеля дасягненьня супольных мэтаў, самая галоўная зь якіх - дэмакратычныя зьмены ў краіне. Прадстаўнікі трох структураў заявілі, што аб'ядноўваць высілкі на будучыя выбарчыя кампаніі. Разам з тым, усе тры арганізацыі паранейшаму застаюцца самастойнымі палітычнымі адзінкамі і будуць дзейнічаць паводле сваіх праграмаў.

Дзеля дасягненьня палітычных зьменаў у Беларусі, перакананыя палітыкі, неабходна актывізаваць грамадзкую думку і абудзіць беларусаў. Гэта магчыма толькі праз супольныя і скаардынаваныя дзеяньні. Так, прадстаўнікі трох арганізацыяў паведамілі пра дамоўленасьці па фармаваньні адзінага сьпісу кандыдатаў на будучыя мясцовыя выбары.

"Супольна дасягаць акрэсьленыя мэты будзе прасьцей, у тым ліку, больш эфэктыўна зможам адстойваць і нашыя праграмныя каштоўнасьці.

Партыя БНФ - палітычны суб'ект з яснай праграмай, каштоўнасьцямі і ідэалёгіяй. Уключаючыся ў Народны рэферэндум, мы не адкідаем сваёй праграмнай дзейнасьці, больш за тое, гэтае партнэрства мы бачым як сродак рэалізацыі і папулярызацыі каштоўнасьцяў БНФ у грамадзтве.

Перакананы, што праз Народны рэферэндум мы зможам больш эфектыўна спрыяць абароне нацыянальных інтарэсаў. У гэтым кантэксьце Партыя БНФ разглядае стратэгічнае партнэрства як форму рэалізацыі Мэмарандуму БНР "Аб захадах па абароне незалежнасьці Беларусі", які быў падпісаны летась у лістападзе. Вельмі важна, каб нашая супольная праца спрыяла ўмацаваньню дзяржаўнай незалежнасьці краіны", - адзначыў Аляксей Янукевіч.

Праца ў межах Народнага рэферэндума будзе праходзіць у некалькі этапаў. Перадусім, неабходна сфармуляваць пытаньні, якія могуць быць вынесеныя на рэферэндум. Цягам трох месяцаў плянуецца аб'ехаць каля 30 гарадоў краіны і даведацца пра найбольш актуальныя і хвалюючыя пытаньні для людзей. Пытаньні плянуецца сфармаваць да мясцоых выбараў, якія маюць адбыцца не пазьней за сакавік 2014 году, у часе якіх распачнецца і збор подпісаў за неабходнасьць правядзеньня рэфэрэндуму. Акрэсьленыя пытаньні будуць уключаныя гэтаксама і ў праграмы кандыдатаў у дэпутаты і могуць стаць асновай дзеля перадвыбарчай праграмы адзінага кандыдата.

"Запачаткаваны працэс ёсьць працэсам дэмакратычным і ў гэтым сэнсе ён супрацьстаіць той мадэлі, якая навязваецца рэжымам. Мы павінныя разьвіваць дэмакратыю ў нашай краіне, нягледзячы на поўнае дэвальваваньне інстытута выбараў. Падкрэсьлю, што мы разглядаем гэтую кампанію ня проста як збор народных меркаваньняў, а менавіта як палітычны працэс апаніраваньня тым варыянтам дзяржаўнай палітыкі, якія рэалізуе рэжым. Мы перакананыя, што нашае стратэгічнае партнэрства будзе паьспяховым.

Спадзяюся, на бліжэйшым паседжаньні Сойм Партыі БНФ зацьвердзіць уваходжаньне партыі ў кампанію Народнага рэфэрэндуму", - паведаміў Аляксей Янукевіч.

**www.narodny.org, фота: www.gazetaby.com**

Магістрат

**Заснавальнік:**
Віцебская Рада Партыі БНФ
**Выдавец**:
Віцебская Рада Партыі БНФ
**Рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Адказны за выпуск:**
Хведар Самагуд
**Дызайн:**
Сяржук Серабро
**Вёрстка:**
Сямён Залацец
**Дапамога:**
Віцебскі Цэнтр грамадзкіх ініцыятываў
**Наклад:**
299 паасобнікаў

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня

Можа выкарыстоўвацца ў рэкламных і агітацыйных мэтах.

Тэлефоны для кантактаў:
8-029- 380-13-75,
713-22-00, 118-92-38,
711-24-47, 711-08-98,
651-32-53, 517-32-53,
fax 36-18-47, 60-26-21,
23-59-63, 37-27-39.




**адрас: вул.Церашковай, д.11, п.№1.13, Віцебск, Рэспубліка Беларусь, 210035**

E-mail: kas_vit@tut.by

**WWW.NARODNY.ORG**

http://kamunikat.org/mahistrat.html

# ЗА ЗАПРАШЭНЬНЕ - АРЫШТ 5 СУТАК

Затрыманых 22 сакавіка актывістаў партыі БНФ Кастуся Смолікава і Леаніда Аўтухова асудзілі да 5 сутак арышту. Суд цягнуўся 25 сакавіка з 11-й гадзіны да 20:45. Кастуся Смолікава і Леаніда Аўтухова, якія знаходзіліся ў ізалятары часовага ўтрыманьня, каля 11 гадзіны прывезьлі ў Кастрычніцкі райсуд Віцебска. У будынку суду сабралася дзясятка паўтара віцебскіх актывістаў і ня менш — міліцыянтаў у форме і па цывільнаму на чале з начальнікам абласной міліцыі грамадзкай бясьпекі **Андрэем Івановым.**

На пачатку паседжаньня ў залю яшчэ пускалі ўсіх ахвотных, але ад першай жа хвіліны пачаліся і выдаленьні: судзьдзя **Іна Грабоўская** загадала выйсьці актывісту **Пятру Іванову**, які гучна павіншаваў яе з Днём Волі. Судзьдзя запатрабавала таксама, каб залю пакінуў чалавек, які здымае падсудных і прысутных у залі. Але высьветлілася, што гэта быў міліцэйскі апэратар, і судзьдзя тут жа выправілася — чалавеку ў цывільным і з відэакамэрай было дазволена застацца. **Леанід Гаравы**, актывіст руху «За свабоду» з Гарадка, напісаў з гэтай нагоды скаргу старшыні суду.



Кастусь Смолікаў на пачатку паседжаньня перадаў судзьдзі скаргу пра тое, што ён знаходзіўся пад вартай да суду больш за 48 гадзін. Гэта парушэньне адміністрацыйна-працэсуальнага заканадаўства, дапушчанае супрацоўнікамі Кастрычніцкага РАУС: затрымаўшы актывістаў 22 сакавіка а 13:10, яны мусілі б у той самы дзень перадаць іх справы ў суд.

Старшыня абласной арганізацыі партыі БНФ **Леанід Аўтухоў** (на фота) запатрабаваў перакладчыка з расейскай на беларускую мову. Гэтая просьба была прадугледжаная: у залі ўжо знаходзіўся перакладчык, настаўнік сярэдняй школы № 10 **Юры Самсонаў.** Спадар Аўтухоў таксама запатрабаваў часу на знаёмства з дакумэнтамі судовай справы. Быў абвешчаны перапынак на паўгадзіны. А потым — яшчэ на дзьве гадзіны, бо Аўтухоў выступіў з хадайніцтвам, каб наняць адваката.

Звычайна суд дае на гэта некалькі дзён — з улікам таго, што вольных адвакатаў можа і ня быць, тым больш калі вядзецца пра запрашэньне канкрэтнага адваката. Але Іна Грабоўская заявіла, што абвяшчае перапынак толькі да 15 гадзіны. За гэты час Леанід Аўтухоў, жыхар райцэнтру Гарадок, мусіць недзе пазычыць грошы, знайсьці ў Віцебску адвакацкую кантору і заключыць дамову з абаронцам.

Кастуся Смолікава і Леаніда Аўтухова вінавацяць паводле артыкула 23.34 адміністрацыйнага заканадаўства — за парушэньне парадку арганізацыі і правядзеньня масавай акцыі. Затрымалі іх у памяшканьні гандлёвага цэнтру «Эвіком», дзе яны раздавалі партыйныбюлетэнь «Магістрат»с запрашэннямі на мітынг, заплянаваны на вечар 25 сакавіка ў Парку культуры і адпачынку чыгуначнікаў. Заяўку ў Чыгуначную раённую адміністрацыю падаваў спадар Аўтухоў, і ў дзень затрыманьня ён яшчэ ня меў адказу ад уладаў, хоць спавясьціць яго яны мусілі за 5 дзён да меркаванага мерапрыемства.

**www.vitebskspring.org**
**www.svaboda.org**

# АХВЯРАВАНЬНІ НА ДЗЕЙНАСЬЦЬ

**ЗАКЛІКАЕМ ГРАМАДЗЯНАЎ БЕЛАРУСІ ПЕРАЛІЧВАЦЬ АХВЯРАВАНЬНІ НА ДЗЕЙНАСЬЦЬ ГА БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ"**

**Рэквізыты:**
**ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАНЬНЕ БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ"**
**р/р 3015100147004 ААТ "Белзнешэканомбанк"**
**філіял Мінскае аддзяленьне № 1 код 226**
**УНП: 100052236**
**У графе "прызначэньне плацяжу" просім пазначыць:**
**— для ахвяраваньняў на стутутную дзейнасьць — "бязвыплатны ўзнос"**
**— для ахвяраваньняў на аплату сядзібы — "бязвыплатны ўзнос на аплату арэнды памяшканьня"**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ЗА ВАШЫЯ АХВЯРАВАНЬНІ!**

# ШТРАФЫ ЗА "ПАРУШЭНЬНЕ ЗАКОНУ АБ СМІ"

**Судзьдзя Кастрычніцкага райсуду Віцебску Алена Протас, упершыню судзячы дэмакратычных актывістаў, прысудзіла 17 траўня сябрам партыі БНФ Леаніду Аўтухову і Кастусю Смолікаву па 30 базавых велічыняў (па 3 мільёны) штрафу на кожнага.**

Аднак найбольш прысутных на працэсе актывістаў, журналістаў і праваабаронцаў уразіў не памер штрафаў, а тое, што судзьдзя практычна пазбавіла старшыню абласной суполкі партыі БНФ Леаніда Аўтухова магчымасьці ўдзельнічаць у судовым працэсе.

**Алена Протас** каля сямі разоў адхіляла хадайніцтвы Аўтухова, каб запрасіць перакладчыка, бо ён недасканала валодае расейскай мовай. Судзьдзя адмовіла ў гэтым, заявіўшы, што Леанід Аўтухоў вучыўся ў школе і там вывучаў расейскую мову. У такім выпадку, на яе думку, перакладчык не патрэбны.

На пытаньне, ці вучыла яна ў школе беларускую, і чаму ня можа фармуляваць свае пытаньні на гэтай дзяржаўнай мове, Алена Протас не адказала. Спадар Аўтухоў быў вымушаны заявіць хадайніцтва аб адводзе судзьдзі, але яно таксама было адхілена. Калі ж ён зьвярнуўся са скаргай на неправамоцныя дзеяньні судзьдзі Протас да старшыні суду, то ў адказ пачуў, што ягоную скаргу разгледзяць і дадуць адказ цягам месяцу.

Без перакладчыка Аўтухоў ня мог быць пэўным, што ўсё разумее падчас працэсу, і таму шмат разоў перапытваў альбо не адказваў на дзе-якія пытаньні судзьдзі. Алена Протас загадала, каб сакратарка запісала ў пратакол, што Аўтухоў адмаўляецца даваць тлумачэньні. Але ён не пагадзіўся, і папрасіў занатаваць адваротнае: што гатовы адказваць на пытаньні суду, калі будзе мець магчымасьць іх зразумець. На якой мове запісваюцца словы Аўтухова і ягонага аднапартыйца Смолікава, які таксама гаварыў па-беларуску, даведацца так і не ўдалося. Таму актывісты ня пэўныя, што іх паказаньні не былі скажоныя праз непрафэсійны пераклад.

Не дапамагло нават апэляваньне да канстытуцыі: Леанід Аўтухоў даводзіў, што кожны грамадзянін мае права карыстацца роднай мовай, і ніхто ня мае права дыскрымінаваць чалавека па нацыянальнай прыкмеце. Але судзьдзя стаяла на сваім. І вынесла абвінаваўчую пастанову: прызнала Леаніда Аўтухова і Кастуся Смолікава вінаватымі ў парушэньні заканадаўства аб СМІ.

Нагадаем, 22 сакавіка, перад Днём Волі, актывісты раздавалі ў гандлёвым цэнтры «Эвіком» партыйны бюлетэнь «Магістрат». Іх затрымалі, абвінавацілі ў закліках да арганізацыі несанкцыянаванага мітынгу і пасадзілі на 5 сутак. Празь месяц супраць іх было выстаўлена яшчэ адно абвінавачаньне: колькасьць канфіскаваных асобнікаў бюлетэня перавышае заяўлены наклад. Прычым бюлетэні супрацоўнікі міліцыі ў прысутнасьці затрыманых не пералічвалі.

Падчас судовага працэсу міліцыянты сьведчылі, ужываючы такую адзінку вымярэньня, як «вялікі стос» ці «тоўсты пачак». Судзьдзю Алену Протас такая аргумэнтацыя цалкам задавальняла. Яна толькі ўдакладняла, ці выглядала гэта большым за дазволеныя заканадаўствам 299 асобнікаў. І міліцыянты згаджаліся. Працэс доўжыўся каля 2-х гадзінаў.

# АКТЫЎНЫ ЎДЗЕЛ – ЗАРУКА ПОСПЕХАЎ

**З пачаткам году актыўней пачала працаваць Віцебская абласная арганізацыя Партыі БНФ начале з кіраўнікам Леанідам Аўтуховым.**

Аднавіўся выпуск бюлетэня "Магістрат", адбыліся шматлікія паездкі па рэгіянальным арганізацыям і сустрэчы з актывістамі, былі пададзены заяўкі на правядзення масавых мерапрыемстваў з нагоды Дня Волі 25 сакавіка і Дня памяці ахвяраў Чарнобыльскай трагедыі 26 красавіка, разасланым лісты на адрасы навучальных установаў с просьбай даць магчымасць сустрэцца з настаўніцкімі калектывамі і старэйшымі школьнікамі.

Таксама пачалася падрыхтоўка да будучай кампаніі "па выбарах дэпутатаў мясцовых саветаў", якая адбудзецца прыкладна на пачатку 2014 года – рыхтуецца спіс магчымых кандыдатаў ад Партыі БНФ, вывучаюцца мясцовыя праблемы і заклапочанасьці людзей, каб нашыя кандыдаты і сябры іх камандаў пры правядзенні кампаніі ведалі, што найбольш турбуе людзей, і , па магчымасьці, зрабілі ўсё, каб гэтыя праблемы былі вырашаныя. Ці то кампаніяй збору подпісаў грамадзянаў, ці то зваротамі ад імя партыйнай арганізацыі на адрас камунальных ці іншых службаў.

Актывізацыя дзейнасьці не засталася не заўважанай з боку структураў "аховы парадку". Нібыта "за парушэнні" пры падрыхтоўцы святкавання Дня Волі на 5 сутак адміністрацыйнага арышту пастановай суддзі пакараныя **Леанід Аўтухоў** і **Канстанцін Смолікаў**, нібыта за парушэнні правілаў дарожнага руху аштрафаваны **Аляксандр Кузняцоў**, і паўторна аштрашаваныя Аўтухоў і Смолікаў на 30 базавых (па 3 млн рублёў) за парушэнні "Закона аб СМІ". Шматлікія наведванні актывістаў партыі перад маючыміся адбыцца сустрэчамі, затрыманні аўтамабіля на 3 гадзіны, трэскі і хуткія разрадкі тэлефонных апаратаў актывістаў – гэта тыя нязручнасці, з якімі ўсё часьцей сутыкаюцца нашыя рэгіянальныя актывісты і лідары.

Важная высновa, зробленая па выніках працы з пачатку года – часцей ісьці да людзей, больш ладзіць сустрэчаў па рэгіёнах з прадстаўнікамі кіраўніцтва партыі, выдаваць больш інфармацыйнай партыйнай прадукцыі з темамі, якія хвалююць грамадзянаў. Як зніжэнне заробкаў і масавы пераезд у Рісію з Наваполацка, адсутнасьць добраапочваемай працы па райцэнтрах, вялікія кошты на кватэрі і арэнду жылля для маладый семьяў, недагледжаныя дарогі, тратуары і двары на ўскрайку горада ў Віцебску.

Нас чакае актыўная праца ўлетку 2013-га. Разам з наведваннем месцаў пахавання ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў у Паляях і навядзеннем парадку навокал мемарыялу, памятнага знаку на месцы сутычкі атрада паўстанцаў Каліноўскага пад кіраўніцтвам Ігната Будзіловіча ў Лёзненскім раёне, паездкі на радзіму Васіля Быкава ў Бычкі Ушацкага раёна 19 чэрвеня, святкавання Дня Незалежнасьці 27 ліпеня будзе шмат цікавых і карысных сустрэчаў і навучанняў. Далучайцеся да актыўнай працы, аднапартыйцы, далучайце знаёмых і сяброў, толькі разам і актыўна працуючы, мы здолеем павярнуць сітуацыю ў краіне. Жыве Беларусь! Жыве вечна!

**К.Смолікаў, kas_vit@tut.by**

# АДБЫВАЕЦЦА ПРЫХАВАНАЯ ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ ЗЯМЛІ

**Усе гады існавання савецкая ўлада імкліва выбівала з селяніна пачуццё ўласніка, гаспадара свайго жыцця. Тыя ж, хто ўсяляк упарціўся, супраціўляўся гэтаму, пераводзіўся ў разрад "ворагаў народу". А "ворагі" проста знішчаліся як клас… За час жыцця ў калгасах у сялян рэпрасавалася пачуццё ўласніка, яны набылі страх перад адказнасцю.**

Падобная тэндэнцыя захавалася ў сучаснай Беларусі, але ў больш прыхаванай форме. Такі стан сярод сялянства замацоўваецца беларускімі чыноўнікамі праз мытарствы фермераў, праз навязванне думкі, што зямля беларускаму сялянству як прыватная ўласнасць непатрэбна. Такім чынам, рэпрэсуючы базавы ўласніцкі інстынкт беларускага сялянства, вышэйшае чынавенства краіны імкнецца дасягнуць адной мэты — здзейсніць у бліжэйшай перспетыве міжкланавую прыватызацыю зямлі…

Як гэта ўсё адбываецца? Ды проста…

Апошняе дзесяцігоддзе ў нашай краіне пад выглядам рэфармавання сельскай гаспадаркі інтэнсіўна ідуць працэсы зліцця двух-трох суседніх гаспадарак у адну і перавод нова-створаных гаспадарак у гападаркі з новай формай ўласнасці. Былыя калгасы, саўгасы ператвараюцца ў ААТ (адкрытыя акцыянерныя таварыствы), ЗАТ(закрытыя акцыянерныя таварыствы), сельскагаспадарчыя кааператывы. Надалей яны перадаюцца ў распараджэнне або ўласнасць новым гаспадарам.

Разгледзім гэты працэс на прыкладзе былога калгаса імя Фрунзэ Шклоўскага раёна, землі якога размяшчаюцца ўздоўж аўтадарогі С.Пецярбург — Адэса.

Гаспадарка была створана ў далёкім 1929 годзе і заўсёды па выніках дзейнасці з'яўлялася адной з найлепшых у раёне. У 2002 годзе да яе быў далучаны суседні калгас "Запаветы Леніна". У 2003 годзе калгас быў пераўтвораны ў ЗАТ "Любініцкае".

Агульная плошча гаспадарі склала 5602 га, з іх 5243 га — сельскагаспадарчыя ўгоддзі, у тым ліку ворыва — 4232 га. Агульная колькасць працуючых у гаспадарцы — 224 чалавекі.

У 2005 годзе пад выглядам "благовидного поступка" — з мэтай выратавання былога калгаса і дапамогі былым калгаснікам, акцыі сельскагаспадарчага прадпрыемства ЗАТ "Любініцкае" набыло ААТ "Амкадор" — буйнейшае на тэрыторыі СНД прадпрыемства па вытворчасці дарожнай і камунальнай тэхнікі. З гэтае пары сельгаспрадпрыемства стала называцца ЗАТ "Амкадор — Шклоў".

Такім чынам, у выніку калгаснікаў былога к-са імя Фрунзэ пазбавілі іх калектыўнай уласнасці на калгасную зямлю, пазбавілі маёмасці — тэхнікі, пагалоўя буйной рагатай жывёлы, свіней, вытворчых памяшканняў і т.д. Зроблена ўсё гэта было такім жа чынам (хоць гэта зараз выглядае і прыгажэй), як калісці гэта рабілі з іх дзядамі і прадзедамі ў далёкім 1929 г., заганяючы іх у калгас і пазбаўляючы прыватнай уласнасці.

Канчатковая ідэя ўсіх гэтых пераўтварэнняў, атрымаўшая па задумцы камбінатараў лагічнае завяршэнне, стала зразумелая толькі амаль праз восем год — 25 сакавіка 2013 года, калі на Беларускай валютнафондавай біржы адбылася здзелка па продажы акцый ААТ "Амкадор". У выніку ўладальнікам 562 457 акцый "Амкадора", што складае 53,64% статутнага фонду, стала наваполацкая кампанія ТАА "Інтэрсервіс", гаспадаром якой з'яўляецца Мікалай Варабей.

Такім чынам, набыўшы кантрольны пакет акцый ААТ "Амкадор", М.Варабей стаў яшчэ аўтаматычна і латыфундыстам — уладальнікам вялікага сельскагаспадарчага прадпрыемства з тысячамі гектараў зямлі.

І гэта не адзіная здзелка па прыватызацыі сельгаспрадпрыемстваў у Беларусі. Прыхаваныя працэсы прыватызацыі зямлі ў нашай краіне ідуць поўным ходам, дзе, нярэдка бывае, сапраўднага гаспадара вылічыць вельмі складана. Пры гэтым беларускае чынавенства імкнецца пераканаць усіх нас, што зямля ў прыватную ўласнасць у Беларусі нікому не патрэбная.

**Рыгор Кастусёў** **http://naviny.by**

# "БЕЛАРУСКАМОЎНЫЯ ЎСЁЙ КРАІНЫ, ЯДНАЙЦЕСЯ!"

**На праблему мовы, як і іншыя праблемы жыцця, трэба глядзець з пункту гледжання раскруткі, прасоўвання, тэхналогіяў.**

Патлумачу. Калі нехта пачаў выдаваць газету, а яе ніхто не ведае, то ёсць пэўная тэхналогія яе раскруткі. Сталыя газетчыкі гэта ведаюць. Тое ж — з сайтамі. Трэба так ставіцца і да прасоўвання беларускай мовы. На тое ёсць свае тэхналогіі.

Дапусцім, ёсць тры ахвотныя размаўляць пабеларуску. Размаўляйце. Потым у вашую кампанію трапляе чацьвёрты, але рускамоўны. З цягам часу і ён становіцца беларускамоўным. Так — з пятым, шостым… пятнадцатым.

Запішыцеся куды-небудзь у вандроўку (напрыклад да Астаповіча), і вы пабачыце, што беларускамоўных цэлы аўтобус. Нас так шмат!

У нас, напрыклад, у Глыбокім тут цэлая супольнасць. Ладзяцца сустрэчы з пісьменнікамі, розныя прэзентацыі, нават паездкі на прыроду з шашлыкамі (праўда, гэта робяць маладзейшыя за мяне), ставяцца намёты, узнімаецца над «лагерам» б-ч-б сцяг.

А то й замовілі аўтобус, ды ўсім кагалам ў Навагарадак на рыцарскі фэст. Быў такі выпадак гадоў 7 таму.

Археолаг **Людміла Дучыц** з Акадэміі навук папрасіла мяне сустрэць групу вандроўнікаў і завезці іх цэнтр у Еўропы (возера Шо, Глыбоцкі р-н).

Прыехала група менчукаў на сваім уласным мікрааўтобусе з дзецьмі, чалавек пад 20, усе спрэч беларускамоўныя, нават вадзіла! Спяваюць беларускія песні, выдатна ведаюць гісторыю… Вы не паверыце! Гэта была іхняя 88-я супольная вандроўка па Беларусі.

Беларускамоўныя ўсёй краіны, яднайцеся!

**Уладзімір Скрабатун, westki.info, www.nn.by**